*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край

2018, № 7(29). Ліпень

## Невядомая паштоўка роднай пляменніцы Гальяша Леўчыка

Некалі слонімскі паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) мне казаў: наша гісторыя — побач, толькі трэба яе ўмець шукаць, каб не страціць тое, што яшчэ захоўваецца ў прыватных архівах. І гэта так. Нядаўна мяне запрасіў да сябе ў госці старэйшы слонімскі мастак Пятро Фёдаравіч Бурсевіч, каб я пераглядзеў яго фотаархіў, можа што карыснае знойдзецца? І што вы думаеце — знайшоў! І знаходка аказалася даволі ўнікальнай. Сярод усіх сямейных фотаздымкаў у рукі трапілася паштоўка з выяваю Слоніма, выпушчаная крамай Бера Любоўскага на Студэнцкай вуліцы ў Слоніме ў 1914 годзе. Цікавай аказалася не толькі сама паштоўка, але тэкст з яе адваротнага боку.


28. 1914 г.

ВСЕМІРНЫЙ ПОЧТОВЫЙ СОЮЗЪ. РОССІЯ.
UNION POSTALE UNIVERSELLE. RUSSIE.
ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО. — CARTE POSTALE.

Мѣсто для марки.

Для Письма:

Kochany Wujaszku!
u nas nie nowego nie słychać my wszyscy jesteśmy zdrowi. tym czasem u nas w Słonimie spokojnie nie wiadomo jak będzie dalej. proszę nam na pisać co tam dzieje się w Warszawie jeżeli bardzo nie bezpiecznie to proszę u ciekać do nas. za tem dowidzenia

Для Адреса:

г. Варшава.
ulica Leopoldyny rug alei Jerozolimskiej
№ 33. т. 32
е. В. Б.
Г-ну Илье Левковичу
W-ny Pan Eljasz Lewkowicz w Warszawie

Печатанный магазинъ Бера Любовскаго, Слонимъ, Студенческая улица.

**●Сяргей Чыгрын**

*Працяг на ст. 3.*

## У бібліятэцы Кангрэсу ЗША захаваліся аўтографы слонімскіх школьнікаў

У бібліятэцы Кангрэсу ЗША захаваліся аўтографы слонімскіх школьнікаў! За падказку мы ўдзячныя нашаму сталаму чытачу Сулейману Мацвеевічу Байрашэўскаму. У 1926 годзе адзначалася 150-годдзе з часу ўтварэння Злучаных Штатаў Амерыкі. З гэтай нагоды ў Польшчы прайшла маштабная акцыя — школы і гімназіі атрымалі аднолькавыя аркушы паперы, якія падпісвалі настаўнікі і вучні, а часам і іх бацькі. Пасля аркушы з подпісамі былі сабраныя ў кнігі, якія перадалі ў ЗША.* Амерыканцы захавалі гэтыя дакументы, такія важныя для нас.

**●Сяргей Ёрш**

*Працяг на ст. 16.*

***Знайдзіце прозвішчы сваіх бацькоў і дзядоў!***



*Слонімскія харцэры з гімназіі імя Касцюшкі, 1926г.*
*Здымак з архіву Кжыштафа Віташэка, radzima.net*

ХРОНІКА

# Раскопкі каля Спаса-Праабражэнскага сабора



У Слоніме каля Спаса-Праабражэнскага сабора ў бліжэйшы час пачнецца будаўніцтва праваслаўнага Дома міласэрнасці. Але перш чым там пачнуцца будаўнічыя работы, юныя археолагі разам з малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Аляксандрам Максімовічам праводзілі археалагічныя раскопкі. Падчас іх быў знойдзены каштоўны археалагічны экспанат — каменны крыжык-карсунчык XI-XIII стагоддзяў. Таксама выяўлена шмат керамікі, каляровага шкла, нож і іншыя рэчы.

●*СЧ*









# Невядомая паштоўка роднай пляменніцы Гальяша Леўчыка

*Працяг, пачатак на ст. 1.*




Ён напісаны па-польску і некалькі адрасных радкоў выведзены па-руску. У перакладзе на беларускую мову тэкст гучыць так:

*"Любімы Дзядзечка! У нас нічога новага не чуваць. Усе мы здаровы. Тым часам у нас у Слоніме спакойна. Невядома, як будзе далей. Прашу напісаць нам, што там дзеецца ў Варшаве. Калі вельмі небяспечна, то прашу ўцякаць да нас. На тым – да пабачэння. Альжбета Аляшкевіч [Elżbieta Oleszkiewicz]".*

Зверху паштоўкі няпоўная дата. Са штампа можна меркаваць, што адпраўлена яна была 28 лістапада 1914 года, калі ў Варшаве пачалася эвакуацыя ўстаноў, заводаў, чыноўнікаў і рабочых на Усход, звязаная з Першай сусветнай вайной.

Аказалася, што паштоўка адрасавалася беларускаму паэту, калекцыянеру, мастаку, музыканту, грамадскаму дзеячу Гальяшу Леўчыку (1880 — 1944), які быў родам са Слоніма, а часова жыў і працаваў у Варшаве. Сапраўднае прозвішча Гальяша Леўчыка было Ляўковіч. Паштоўку са Слоніма напісала яго пляменніца Альжбета Аляшкевіч — дачка роднай сястры Гальяша Леўчыка. Зварот "wujaszek" (дзядзечка) можа ўказваць, што гэта менавіта дачка сястры Леўчыка.

Сапраўды, у Гальяша Леўчыка была родная сятра Эмілія (Аміля). Сяргей Хмара ў кнізе "Рабінавы хмель" (Мн., 2009. С.148) прыгадвае: "Сустракаліся мы з ім (маецца на ўвазе з Гальяшом Леўчыкам. – С.Ч.) у Слоніме, у доме ягонай сястры, якая выйшла замуж за нейкага гарадскога ўрадоўца і размаўляла на польскай мове…".

Сястра Эмілія рана памерла ад сухотаў. У яе была дачка Альжбета Аляшкевіч. Значыць і прозвішча сястры Леўчыка было Аляшкевіч. Бачна па тэксце гэтай паштоўкі, што пляменніца перапісвалася са сваім знакамітым дзядзькам, шчыра яго паважала і любіла. Яна і піша, што калі ў Варшаве кепска, дык каб той уцякаў да іх у Слонім.

Як склаўся лёс роднай пляменніцы Гальяша Леўчыка – пакуль невядома. Ці яна жыла ў Слоніме, ці куды выехала – таксама застаецца пакуль таямніцай. Пытанняў вельмі шмат. Але адказы на іх пацяху разгадваюцца.

Паштоўка з аўтографам пляменніцы Гальяша Леўчыка – яшчэ адзін штрых у біяграфію слонімскага літаратара.

**●*Сяргей Чыгрын***

# У 1940 годзе нацыстам на Гальяша Леўчыка напісалі данос

У канцы 1939 года слонімскі паэт Гальяш Леўчык (Гальяш Ляўковіч) вярнуўся ў Варшаву (вандроўка з савецкай тэрыторыі была нелегальнай). Яго кватэру занялі чужыя людзі, каштоўныя архіў і бібліятэка зніклі. Гэта быў страшны ўдар. Перажыць гэтую бяду дапамаглі варшаўскія беларусы. Гальяша Леўчыка прынялі на працу ў беларускі камітэт, дзе ён чытаў лекцыі на культурніцкія тэмы.

1 лістапада 1940 года палітэмігрант, кіраўнік беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіян Акінчыц напісаў ва ўсходні аддзел нацысцкай партыі рапарт пад назвай "Беларускае пытанне", у якім прапанаваў правесці "чыстку" ў беларускіх арганізацыях, у тым ліку і ў Варшаве. Акінчыц настойваў, што з кіраўніцтва трэба выключыць некалькіх чалавек, у тым ліку і Ляўковіча. Іх ён называў "у палітычных адносінах бяздарнымі элементамі".* Гэта значыць, яны не праводзілі нацысцкую палітыку, з'яўляліся "дэмакратамі" ці "левымі".

Відаць, былі і іншыя даносы. У канцы 1941 года добрага знаёмага Гальяша Леўчыка Яна Пятроўскага выклікалі ў гестапа ў Берліне. Між іншым, гестапаўцаў цікавіла, ці не з'яўляецца Ляўковіч яўрэем. Пятроўскі заявіў, што Гальяш Ляўковіч — беларус, паэт.** Здаецца, пасля гэтага яго ўжо не чапалі.

**●*Сяргей Ёрш***

**Сакалоўскі У., Ляхоўскі У. Нямеччына й беларускі нацыянальны рух напярэдадні й у першыя гады Другое Сусьветнае Вайны // Bialoruskie Zeszyty Historyczne (Беласток), 2000, № 13. С. 18.*

***Пятроўскі Я. Мэмуары. Кніга першая. — Слуцак — Гэйнсвільл, 1988. С. 284.*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), 2018 г.*

У чэрвені 1928 года адбыліся два матчы паміж WKS і аб’яднанай камандай ŻKS і Balladyny (гімназістаў). У газетнай публікацыі не ўдакладняецца, якое падраздзяленне прадстаўлялі вайскоўцы, але найхутчэй 79-ы полк. Першы матч скончыўся ўнічыю 3:3, у другім WKS святкаваў перамогу — 3:1. Сярод удзельнікаў гульняў лепшымі былі Равіцкі II (Rawicki II), Гжэсяк (Grzesiak), Вайнштэйн (Wajnsztejn), Шыманскі (Szymański). Нам вядома, што першы і трэці з’яўляліся гульцамі яўрэйскай каманды. Шыманскі і, відаць, Гжэсяк гулялі за вайскоўцаў.

У пачатку жніўня 1928-га ў Слоніме адбыўся цікавы матч. ŻKS выступала ў моцным складзе. У яе матчы з WKS 79 pp была зафіксаваная баявая нічыя 3:3 (2:0). У першым тайме дамінавалі футбалісты ŻKS, а на другі тайм у іх не хапіла сіл, чым і скарысталіся вайскоўцы. Найлепшыя сярод яўрэйскіх футбалістаў былі Зэлкіўскі (Zelkiwski), Равіцкі II і Палец (Palec) (у 1927-м ён выступаў за каманду Siła/Kraft). У складзе WKS выдатна гулялі ўжо вядомы нам Шыманскі і Замора (Zamora). У рэпартажы адзначалася, што “суддзя судзіў вельмі слаба”, прозвішча яго далікатна не называлася.

Апошні вядомы нам футбольны матч 1928 года прайшоў у Слоніме ў кастрычніку. WKS 79 pp выйграў у ŻKS — 3:2 (3:0). У вайскоўцаў найлепшымі на полі былі Даманскі (Domański), Шыманскі і Паўліцкі, у апернікаў — Дукес (Dukies), Каплінскі і Вайнштэйн.

**1929**

Пачатак сезону ў Слоніме застаўся ”па-за кадрам” — першы матч, пра які мы ведаем, адбыўся ў чэрвені. Каманду WKS 80 pp запрасілі ў Баранавічы, дзе яны саступілі мясцоваму Makabi — 4:6 (2:4). Гульня праходзіла з заўважнай перавагай гаспадароў поля. Судзіў пан Дзікоўскі (Dzikowski).



*Фота: audiovis.nac.gov.pl*

У той час Баранавічы сталі лідарам у футболе ў нашым рэгіёне. Каманда 78-га пяхотнага палка дэбютавала ў “клясе А” Віленскай акругі. Баранавіцкая Makabi ў пачатку лета адкрыла новы стадыён і згуляла на ім першы матч з той жа слонімскай камандай — WKS 80 pp. На гэты раз вайскоўцы перамаглі — 4:3 (1:1). У першым тайме Makabi меў перавагу, але забіў толькі адзін гол. У справаздачы адзначалася, што выдатна гуляў брамнік WKS 80 pp, які шмат разоў выратоўваў каманду. А пасля перапынку вайскоўцы выйшлі наперад. Ужо праз хвіліну гаспадары поля зраўніваюць лік. Але ў WKS 80 pp засталося больш сілаў, яны забіваюць два галы і фактычна здымаюць пытанне пра пераможцу. Толькі ў самым канцы гульні Makabi забівае яшчэ адзін гол з пенальці, ён на рахунку Волкіна (Wołkina). У складзе WKS 80 pp найлепшым быў вядомы нам паручнік Пятрушка (Pietruszka). Як бачым, у розныя сезоны ён гуляў за каманды і 79-га, і 80-га палкоў. Баранавіцкім заўзятарам, якіх сабралося каля 600 чалавек, слонімская каманда спадабалася. Адзначалася, што судзейства было слабое.

У канцы ліпеня ў Слоніме сустрэліся WKS і ŻKS. У справаздачы не адзначаецца, да якога палка адносіцца вайсковая каманда. Магчыма, гуляла аб’яднаная дружына. У першы дзень WKS выйграў з лікам 5:4, у другі дзень быў сапраўдны разгром — 6:1. Матчы былі цікавыя. У складзе вайскоўцаў адзначыліся Пятрушка (Pietruszko) і Адлер (Adler), у яўрэйскай камандзе — Дукес (Dukies) і Мінц (Minc). Абедзьве гульні ўпэўнена судзіў пан Любоўскі (B. Lubowski), самы вядомы слонімскі суддзя. Верагодна, ён і з’яўляўся мясцовым карэспандэнтам варшаўскай газеты “Przegląd Sportowy”.

Неўзабаве ў нашым горадзе прайшоў яшчэ адзін футбольны матч — у госці да ŻKS з Баранавічаў прыехаў Makabi. Судзіў той жа Любоўскі. Госці выйгралі з лікам 3:1 (3:0). За першыя паўгадзіны яны забілі

тры галы, хет-трык на рахунку Швіранскага (Szwirański). Пасля перапынку гульня выраўнялася і гаспадары забілі адзін гол — Дабкоўскі (Dobkowski). У ŻKS найлепшымі на полі былі Равіцкі II, Дукес і брамнік Вайнштэйн.

У 1929-м сустрэчы слонімскіх і баранавіцкіх футбалістаў адбываліся часта — дабірацца на матчы ў суседнія гарады было зручна. У пачатку жніўня ўжо баранавіцкі Makabi запрасіў у госці слонімскі ŻKS. Слонімцы выйгралі з лікам 2:0. У справаздачы адзначалася, што Makabi гуляў у рэзервовым складзе і нягледзячы на гэта меў перавагу, мог выйграць з разгромным лікам. Аднак атакам гаспадароў поля не хапала вастрыні, дакладных удараў. Да таго ж выдатна гуляў брамнік Вайнштэйн. Ён адбіў пенальці. ŻKS пры сярэдняй гульні ў другім тайме здолела забіць два галы і перамагчы.

У тым жа жніўні 1929-га ў Слонім прыехала з Навагрудка, цэнтра ваяводства, каманда Makabi. Матч са слонімскім ŻKS датэрмінова скончыўся ўнічыю 1:1. Справа ў тым, што пачалася бура і гульню давялося перарваць. У ŻKS найлепшымі на полі былі Равіцкі II і Міна (Mina).

Праз тыдзень, таксама ў жніўні, паміж сабой гулялі слонімскія каманды ŻKS — Kraft. Першая выйграла з лікам 5:1. І гэта пры тым, што ў складзе ŻKS былі чатыры рэзервісты. У пераможцаў на полі вызначыліся Равіцкі II і Мінц (Minc), у пераможаных — Піня (Pinia). Судзіў матч і судзіў добра паручнік Пятрушка (у справаздачах 1929-га яго ўжо ні разу не назвалі Пятрашкам).

З вераснёўскіх паядынкаў нам вядомы толькі адзін. ŻKS — Kraft — 9:0. Гульня ішла ў адну браму, таму заўзятары засталіся расчараванымі. У складзе каманды Kraft найлепшым быў той жа Піня, у пераможцаў — Равіцкі II і Дабкоўскі. Судзіў паручнік Пятрушка.

У першыя дні кастрычніка ў нашым горадзе прайшоў матч ŻKS — Żyrowice — 5:4. На гэты раз футбалісты парадавалі слонімскіх заўзятараў, паколькі на полі прысутнічалі барацьба і інтрыга. Яўрэйская каманда здолела рэалізаваць сваю перавагу і забіць на адзін гол больш. У ŻKS вылучаліся Равіцкі II і Закройскі II (Zakrojski II), сярод жыровіцкіх хлопцаў — Даманскі (Domański) і Мацяшчык (Maciaszczyk).

Праз два тыдні ў Слоніме сустрэліся WKS і K.S.Żyrowice. Матч скончыўся ўнічыю 2:2. "Цікавая гульня з перавагай вайскоўцаў", — пісалі ў кароткай справаздачы. Відаць, на наступны дзень прайшоў матч-рэванш. І зноў атрымалася нічыя — 1:1.

Апошнім футбольным паядынкам сезону 1929 года была сустрэча ў 20-х чыслах кастрычніка WKS і ŻKS. Яна скончылася перамогай вайскоўцаў з лікам 2:1. У WKS найлепшыя на полі Турэцкі (Turecki) і Вэбер (Weber), у ŻKS — Мінц і Баскір (Baskir). Судзіў матч маёр Зацны (Zacny).

Нам удалося рэканструяваць асноўны склад каманды ŻKS Słonim узору 1928-1929 гадоў:

Вайнштэйн (Wajnsztejn), брамнік
Равіцкі II (Rawicki II), нападаючы
Баскір (Baskir)
Закройскі II (Zakrojski II)
Дабкоўскі (Dobkowski)
Дукес (Dukies)
Зэлкіўскі (Zelkiwski)
Палец (Palec), былы гулец Kraft
Капліньскі (Kapliński)
Мінц (Minc)
Міна (Mina)*.

У гэты ж час за аб'яднаную каманду WKS Słonim, за каманды 79-га і 80-га палкоў выступалі наступныя футбалісты:

Гжэсяк (Grzesiak)
Шыманскі (Szymański)
Турэцкі (Turecki)
Вэбер (Weber)
Пятрушка (Pietruszka, Pietruszko).
Адлер (Adler)
Паўліцкі (Pawlicki)
Замора (Zamora)
Даманскі (Domański)

***●Сяргей Ёрш***

*Працяг у наступных нумарах*

**Ёсць верагоднасць, што ў адной з публікацый у спартыўнай прэсе адбылася памылка, таму Мінц і Міна — гэта адна асоба. Пастараемся гэта праверыць.*

# Лёгкаатлет-рэкардсмен Вітальд Гедгаўд



У біяграфіі вядомага польскага лёгкаатлета міжваеннага часу Вітальда Гедгаўда (Witold Giedgowd, 1909, Вільня — 1954, Варшава) ёсць і кароткі слонімскі эпізод. Пасля заканчэння віленскай гімназіі ён у 1926 — 1931 гадах вучыўся ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. У 1926-м належыў да спартыўнага клуба "Стралец" з Гродна, у 1928-м — да варшаўскай "Палоніі", да яе лёгкаатлетычнай секцыі. Пад 1929 годам у біяграфіі Гедгаўда пазначаны "ZS Słonim".* Цяжка сказаць, як расшыфроўваецца назва, але зразумела, што гэта быў спартыўны клуб. Цікава, як слонімцам удалося "заваббаваць" Вітальда Гедгаўда. Але ў 1930-м ён зноў вярнуўся ў "Палонію". Менавіта ў яе складзе Гедгаўд і дасягнуў найлепшых вынікаў. Спартовец стаў рэкардсменам Польшчы па скачках у вышыню (1.84 у 1932 годзе).

***●Генадзь Гурскі***

**Witold Giedgowd // http://encyklopedia.warmia.mazury.pl/index.php/Witold_Giedgowd*

ЮБІЛЕЙ

# Даследчык Слонімшчыны

***14 ліпеня нашаму земляку Аляксандру Місцюкевічу споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння***



***Аляксандр Місцюкевіч***

Гісторык, краязнавец, грамадскі актывіст Аляксандр Іванавіч Місцюкевіч — наш зямляк. Нарадзіўся ён на Слонімшчыне ў вёсцы Піронім. Значную частку жыцця адпрацаваў на пасадах, звязаных далёка не з краязнаўствам, гісторыяй, філалогіяй. У свой час ён закончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Працу пачаў электраманцёрам і даслужыўся да намесніка дырэктара вучэбнага цэнтра РУП Гродназнерга. Разам з тым, Аляксандр Місцюкевіч актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю, цікавіўся гісторыяй сваёй сям'і, гісторыяй роднага краю. У 1999 годзе Місцюкевіча абралі кіраўніком Гарадзенскага абласнога Таварыства беларускай мовы. І ён займаўся адраджэннем роднай мовы на Гродзеншчыне.

У 2002 годзе мне трапіў у рукі маленькі па памерах, але ладненькі зборнічак “Спявайце, братцы, спявайце”. Гэта быў кішэнны фармат беларускага спеўніка, у які сабраны песні рознага жанру. Яго склалі гарадзенскі паэт і кампазітар Яўген Петрашэвіч і наш зямляк Аляксандр Місцюкевіч.

Час ішоў і Аляксандр Іванавіч сур'ёзна захапіўся гісторыяй сваёй роднай вёскі Піронім на Слонімшчыне. Пачаў збіраць пра яе розныя звесткі: ад успамінаў да архіўных матэрыялаў. І сабралася іх шмат. Ён пачаў пісаць асобныя артыкулы, зрэд часу друкуючы іх на старонках “Газеты Слонімскай”. Так атрымалася кніга ”Падарожжы па родных мясцінах”, якая пабачыла свет у гарадзенскім выдавецтве “ЮрСаПрынт” у 2016 годзе.

У “Падарожжах па родных мясцінах” Аляксандр Місцюкевіч вельмі цікава распавёў не толькі пра родную вёску Піронім, але і пра асоб, якія некалі мелі дачыненне да яе, былі там гаспадарамі. Найперш шмат новых архіўных звестак аўтар знайшоў пра шляхціцаў Бронскіх. Дзякуючы Бронскім у Піроніме ў XIX стагоддзі была адкрыта суконная фабрыка, на якой працавалі 75 чалавек.

Апісваючы гісторыю Піроніма, аўтар кнігі даследуе і іншыя вёскі і хутары Слонімшчыны, асабліва тыя, што суседнічаюць ці суседнічалі з Піронімам. Найперш гэта Львоўшчына, Ісаевічы і Дзераўная. Таму што лёс роднай вёскі краязнаўца Місцюкевіча падобны на лёс іншых слонімскіх вёсак. Не абмінула іх і паўстанне 1863 года, розныя войны, у тым ліку Першая і Другая сусветныя, рэпрэсіі і калектывізацыя. Сотні землякоў праходзяць праз старонкі кнігі Аляксандра Місцюкевіча, якія змагаліся з ворагамі, прымалі ўдзел у паўстаннях, загінулі за Бацькаўшчыну і на франтах, былі сасланыя ў Сібір ці закатаваныя, а таксама тыя, хто застаўся жыць і працаваць на роднай зямельцы, перажыўшы многія войны, рэпрэсіі і калектывізацыю…




Шмат у кнізе друкуецца архіўных дакументаў, спасылак на архіўныя знаходкі, царкоўныя дакументы. Хораша апісаў аўтар і тыя падзеі, сведкам якіх ён ужо быў сам. Дарэчы, Аляксандр Місцюкевіч шмат пазнаходзіў у архівах прозвішчаў слонімцаў-удзельнікаў паўстання 1863 года.

Місцюкевіч стала жыве ў Гародні. Яго заўсёды можна бачыць на розных мерапрыемствах, сустрэчах, прэзентацыях, а таксама на роднай Слонімшчыне. Ён паранейшаму ў пошуках, ён там, дзе жыве роднае слова, гісторыя, краязнаўства. Таму гэтаму шчыраму і таленавітаму чалавеку хочацца пажадаць здароўя і новых творчых адкрыццяў.

●***Сяргей Чыгрын***



# Новыя аэрафота Слоніма, зробленыя падчас Першай сусветнай вайны

Летам 2018-га на інтэрнэт-аукцыёне на сайтах ebay.com і ebay.fr з'явіліся яшчэ два аэрафота Слоніма, зробленыя падчас Першай сусветнай вайны. "СК" ужо пісаў на гэтую тэму і прагназаваў з'яўленне новых здымкаў, якія захоўваюцца ў прыватных калекцыях у замежжы.* Першыя аэрафота з'явіліся два гады таму, у пачатку 2017 года прадавалі здымак 1917-га, на якім добра бачныя будынкі ў ваенным гарадку (пра гэтае фота пісала ў "ГС" Жанна Іванова). У пачатку 2018 года на інтэрнэт-аукцыёне з'явіліся аэрафота Слоніма (раён ваеннага гарадка), Альбярціна і Дзеравянчыцаў.** I вось дачакаліся новых здымкаў.

Фота Замосця важнае тым, што на ім мы бачым раёны, якія засталіся "па-за кадрам" на іншых аэраздымках. Напрыклад, можна разгледзець комплекс будынкаў турмы. Шкада, што не відаць вакзалу, але ён можа быць на здымках, якія яшчэ з'явяцца на інтэрнэт-аукцыёнах.

Іншае фота, зробленае з нямецкага самалёта, дазваляе нам дэталёва вывучыць цэнтр Слоніма — вуліцы, завулкі, дамы. Злева ад галоўнай сінагогі выдатна відаць тагачасная Андрэеўская вуліца і старыя яўрэйскія могілкі, на месцы якіх цяпер рынак. Мост праз Малы канал Агінскага на цяперашняй Савецкай вуліцы быў разбураны, але побач бачны невялікі мост, відаць, выключна пешаходны. Замосце выглядае жахліва — яно ляжыць пераважна ў руінах.

Аэраздымка нашага горада падчас нямецкай акупацыі 1915-1919 гадоў рабілася неаднаразова. Здымкаў павінна быць некалькі дзясяткаў.

●***Сяргей Ёрш***






Слонімскі край, № 1(11)

Знаходка года

Здымкі Слоніма, зробленыя з нямецкага самалёта 100 гадоў таму

Знаходкай 2016 года можна з упэўненасцю назваць тры фотаздымкі Слоніма, зробленыя з нямецкага самалёта падчас Першай сусветнай вайны. Два з іх летам з'явіліся на ebay.com. На адным з іх бачым тагачасную ўскраіну горада з боку Рышчыц — казармы, склады, жылыя дамы, палі, цяперашнія Чырвонаармейскую, Шасейную вуліцы, Косаўскі тракт, мост праз Шчару. На здымку ёсць нават домік, у якім нарадзіўся паэт

Kopierschutz

*Ёрш С. Здымкі Слоніма, зробленыя з нямецкага самалёта 100 гадоў таму // Слонімскі край, 2017, № 1(11). Студзень. С. 10.*


Слонімскі край, №3(25)

Аэрафота Альбярціна і Дзеравянчыцаў стогадовай даўніны

***Ёрш С. Аэрафота Альбярціна і Дзеравянчыцаў стогадовай даўніны // Слонімскі край, 2018, № 3(25). Сакавік. С. 14-15.*

# Жыхары Слонімшчыны, забітыя партызанамі ў траўні 1942-га — чэрвені 1943 года

У Нацыянальным гістарычным архіве ў Гродне захоўваецца справа "Кніга памерлых за 1943 год" (Ф. 1034, воп. 1, спр. 13), якая змяшчае метрычныя запісы загінулых жыхароў Слонімшчыны ў перыяд за травень 1942-га — чэрвень 1943 года. У іх згадваецца 56 чалавек. Прычына іх смерці пазначана наступная: "забіты/забітая партызанамі" або "забіты/забітая бандытамі".

**Бекрэнь Аляксандр.** Забіты 20 траўня 1942 года ў 5 гадзін у вёсцы Русакова ва ўласнай хаце. Нарадзіўся 1 снежня 1884 года ў Русакова. Праваслаўны. Бацькі — Пётр Бекрэнь з Русакова і Таццяна (у дзявоцтве — Нагула) з Вербалатаў. Жонка — Ганна (у дзявоцтве — Сегень), праваслаўная, нарадзілася ў 1898 годзе ў Русакова.

**Макута Варвара** (у дзявоцтве — Герман). Забітая 7 кастрычніка 1942 года ў 16 гадзін у Піроніме ў сваёй хаце. Нарадзілася ў 1884 годзе ў Піроніме. Праваслаўная. Бацькі — Юльян Герман, праваслаўны, нарадзіўся ў 1858 годзе ў Піроніме, Алена (у дзявоцтве — Калеснік), праваслаўная, нарадзілася ў 1863 годзе ў Піроніме. Муж — Васіль Макута, праваслаўны, 1893 года нараджэння, з Піроніма.

**Шэйпа Вера** (у дзявоцтве — Багдановіч). Забітая 31 кастрычніка 1942 года ў 22 гадзіны ў Варонічах Міжэвіцкай воласці ва ўласнай хаце. Нарадзілася ў 1894 годзе ў вёсцы Збочна Азярніцкай воласці. Праваслаўная. Бацька — Станіслаў Багдановіч, 1859 г. н., маці — Агаф'я Лаўрэнцік, 1953 г. н., на той час яны памерлі. Муж — Іван Шэйпа, праваслаўны, 1894 года нараджэння, з Варонічаў.

**Цішко Марыся** (у дзявоцтве — Іванчук). Забітая 20 лістапада 1942 года ў 20 гадзін у вёсцы Мілаванне Сянькоўшчынскай воласці ў сваім доме. Нарадзілася ў 1885 годзе ў Галынцы. Праваслаўная. Бацькі — Міхась Іванчук з Галынкі, Палагея (у дзявоцтве — Галубчык) з Кабакоў. Муж — Васіль Цішко, праваслаўны, нарадзіўся ў 1883 годзе ў Мілаванні. На час складання дакумента жыў у Слоніме на Гандлёвай плошчы (цяпер — пл. Леніна), дом 13.

**Ягела Юзаф.** Забіты 26 снежня 1942 года ў 20 гадзін у вёсцы Яжона Шылавіцкай воласці (цяпер знаходзіцца ў складзе Баранавіцкага раёна). Нарадзіўся 17 лютага 1872 года. Праваслаўны. Бацькі — Мацвей і Дарота Ягела з Яжонаў. Праваслаўныя. Жонка — Паўліна (у дзявоцтве — Мядзведзік), праваслаўная, 1887 года нараджэння, з Колбавічаў (цяпер — Баранавіцкі раён).

**Ягела Паўліна** (у дзявоцтве — Мядзведзік). Забітая 26 снежня 1942 года ў 20 гадзін у вёсцы Яжона. Нарадзілася ў 1887 годзе. Праваслаўная. Бацькі — Фёдар Мядзведзік з Колбавічаў, Ганна Мядзведзік з Яжонаў. Муж — Юзаф Ягела, 1872 года нараджэння, з Яжонаў. Праваслаўныя.

**Бута Дзям'ян.** Забіты 28 снежня 1942 года ў 12 гадзін ў Акунінаве. Нарадзіўся ў 1882 годзе ў Акунінаве. Бацькі — Лявонцій Бута з Акунінава і Ганна (у дзявоцтве — Рудзік) з Русакова, жыла ў Акунінаве. Жонка — Тэкля Бута з Рудзікаў, 1893 года нараджэння, з вёскі Падмошша. Праваслаўныя.

**Міхальчык Мікалай.** Забіты 9 студзеня 1943 года каля 15 гадзін у вёсцы Акунінава. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў Вербалатах. Праваслаўны. Бацькі — Фёдар Міхальчык з Вербалатаў і Яўгенія (у дзявоцтве — Мінчук) з Шыганоў. Жонка — Ганна Міхальчык. Праваслаўныя.

**Гудовіч Эдвард.** Забіты 9 студзеня 1943 года ў 3 гадзіны ў Акунінаве. Нарадзіўся ў 1871 годзе ў Грудаполі (цяпер — Івацэвіцкі раён). Каталік. Бацькі — Марцін Гудовіч з Моўчадзі і Антаніна (у дзявоцтве — Рымашэўская) з Грудаполя. Жонка — Алена (у дзявоцтве — Янушэвіч), нарадзілася ў 1891 годзе ў Слоніме, жыла ў Жыровічах. Каталікі.

**Бараноўскі Лукаш.** Забіты 18 студзеня 1943 года ў 1 гадзіну ў Хмяльніцы ў сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1880 годзе ў вёсцы Збочна. Бацькі — Фёдар і Наталля Бараноўскія, са Збочна. Жонка — Еўдакія (у дзявоцтве — Кашыкевіч), нарадзілася ў 1879 годзе ў Збочна. Праваслаўныя.

**Бараноўская Еўдакія** (у дзявоцтве — Кашыкевіч). Забітая 18 студзеня 1943 года ў Хмяльніцы. Нарадзілася ў 1879 годзе ў Збочна. Бацькі — Кліменцій і Ірына Кашыкевічы з Азярніцы. Муж — Лукаш Бараноўскі. Праваслаўныя.

**Купіч Антон.** Забіты 27 студзеня 1943 года ў 1 гадзіну ў сваёй хаце ў Загрыцькаве. Нарадзіўся ў Загрыцькаве ў 1881 годзе. Бацькі — Аляксей і Лізавета Купічы з Загрыцькава. Жонка — Ірына (у дзявоцтве — Купіч), праваслаўная, нарадзілася ў 1894 годзе ў Загрыцькаве. Праваслаўныя.

**Швайдзюк Васіль.** Забіты 29 студзеня 1943 года ў 16 гадзін у сваёй хаце ў Якімавічах. Нарадзіўся ў 1913 годзе ў Якімавічах. Бацькі — Рыгор Швайдзюк і Дамініка (у дзя-



Nr. 256 Slonim, den / dnia 15 März 1943

Das Kind Tatjana Strupowietz
russisch-orthodox
wohnhaft / pražyvajučy(ja) Jacimowitschi, Gemeinde Schilowitschi, Kreis Slonim
ist am / dnia 13 März 1943 um / a 22 Uhr / hadzinie Minuten / minut
in / u Jacimowitschi in ihrer Wohnung totgeschlagen / pamior(la)
Die Verstorbene war geboren am / Pamioršy(ja) uradziŭsia(lasia) 1940 4 4
in / u Jacimowitschi
Vater / Bačka Nicolaj Strupowietz russisch-orthodox, geboren am 1911 in Jacimowitschi, wohnhaft in Jacimowitschi
Mutter / Matka Wiera geborene Turuk russisch-orthodox, geboren am 1919 in Roslawl, wohnhaft in Jacimowitschi
Die Verstorbene war nicht verheiratet mit ~~Alexsander Turuk~~ / Pamioršy(aja) byŭ(la) u suženstvie z
(Durchstreichenen nicht lesen)

Eingetragen auf mündliche ~~schriftliche~~ Anzeige / Zajava ŭniesiena slоŭna-pisemna Alexsander Turuk
wohnhaft in Jacimowitschi
Der Anzeigende / Zajaŭlajučy hat sich durch seinen Personalausweis ausgewiesen
Vorgelesen, genehmigt und / Pračytana, zhodna i padpisana unterschrieben
(–) Alexsander Turuk

Der Standesbeamte / Uradaviec Cyvilnaha Stanu
In Vertretung
(–) Wiesslaw Labic

Todesursache / Pryčyna śmierci zabitaja partyzanami
Eheschliessung der / Suženstva Verstorbenen am / pamioršaba(aj) dnia in / u

Zhodnaść z pieršym aryhinałym upisam saviedčajecca.
Slonim den 29/VII 1943
Der Standesbeamte
Uradaviec Cyvilnaha Stanu
In Vertretung [signature]

# Жыхары Слонімшчыны, забітыя партызанамі ў траўні 1942-га — чэрвені 1943 года

*Працяг, пачатак на ст. 8-9.*
воцтве — Прэдка) з Якімавічаў. Жонка — Аляксандра Швайдзюк (у дзявоцтве — Пенза) з Якімавічаў. Праваслаўныя.

**Струпавец Вольга** (у дзявоцтве — Турук). Забітая 30 студзеня 1943 года ў 23 гадзіны ў сваёй хаце ў населеным пункце Калечы мост каля Дзераўной. Нарадзілася ў 1892 годзе ў Якімавічах. Бацькі — Пётр Турук з Якімавічаў і Таццяна (у дзявоцтве — Гусарык) з Нагуевічаў. Муж — Павел Струпавец, 1888 года нараджэння, з Савічаў, жыў у Калечы мост. Праваслаўныя.

**Утлік Іван.** Забіты 31 студзеня 1943 года ў 22 гадзіны ў Сынковічах (раней — Слонімскі павет, цяпер у складзе Зэльвенскага раёна). Нарадзіўся ў 1921 годзе ў Казловічах (таксама Зэльвенскі раён). Бацькі — Уладзімір і Анастасія Утлікі з Казловічаў. Праваслаўныя.

**Свірэпік Іван.** Забіты 31 студзеня 1943 года ў 4 гадзіны ў Сянькоўшчыне ў сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1923 годзе ў Янаве. Бацькі — Мікалай Свірэпік з вёскі Ламашы і Уршуля (у дзявоцтве — Шылінская, Жылінская?), 1895 года нараджэння, з Грабянаў, жылі ў Слоніме. Праваслаўныя.

**Сушко Галіна.** Забітая 1 лютага 1943 года ў 6 гадзін. Нарадзілася ў 1926 годзе ў Палатніцы. Каталічка. Бацькі — праваслаўны Канстанцін Сушко з Палатніцы і каталічка Аляксандра (у дзявоцтве — Шымуцінская) з Каменкі.

**Сальнікаў Мікалай.** Забіты 2 лютага 1943 года ў 3 гадзіны ў Шастаках. Нарадзіўся ў 1918 годзе ў Расіі. Бацькі — Купрыян і Вольга Сальнікавы. Праваслаўны.

**Панашчык Георгій.** Забіты 4 лютага 1943 года ў 24 гадзіны ў Русакова ў сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1884 годзе ў Русакова. Бацькі — Сямён і Ксенія Панашчыкі з Русакова. Жонка — Вольга (у дзявоцтве — Валюкевіч), 1895 года нараджэння, з Русакова. Праваслаўныя.

**Босік Антон.** Забіты 4 лютага 1943 года ў 24 гадзіны ў Русакова ў сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1900 годзе ў Дзеравянчыцах. Бацькі — Лука Босік з Дзеравянчыцаў і Ганна (у дзявоцтве — Акуліч) са Скоўдзічаў. Жонка — Аляксандра (у дзявоцтве — Бекрэнь), 1901 года нараджэння, з Дзеравянчыцаў. Праваслаўныя.

**Слабода Васіль.** Забіты 10 лютага 1943 года ў 23 гадзіны ў сваёй хаце ў Альбітаве (Гальбітаве, на поўнач ад Сянькоўшчыны). Нарадзіўся ў 1901 годзе ў Канюхах. Бацькі — Мікалай і Ганна Слабода з Канюхоў. Жонка — Алена (у дзявоцтве — Антановіч) з Альбітава. Праваслаўныя.

**Грыгарэвіч Надзея** (у дзявоцтве — Гаель). Забітая 18 лютага 1943 года ў 0.30 у Пярэсеках каля Дзераўной у сваёй хаце. Нарадзілася ў 1892 годзе ў Малышах (відаць, Лідскага раёна, калі толькі ў дакуменце не сказілі назву вёскі — Малышэвічы). Бацькі — Сяргей і Тэкля Гаель з Малышоў. Муж — Міхаіл Грыгарэвіч, 1886 года нараджэння, з Буцілаў (Лідскі раён), жыў у Пярэсеках. Праваслаўныя.

**Грыгарэвіч Іосіф.** Забіты 18 лютага 1943 года ў 0.30 у Пярэсеках каля Дзераўной. Нарадзіўся ў 1912 годзе ў Буцілах каля Жалудка (Лідскі раён). Бацькі — Міхаіл Грыгарэвіч, 1886 года нараджэння, у Буцілах, Надзея (у дзявоцтве — Гаель), 1892 года нараджэння, у Малышах, жылі ў Пярэсеках. Жонка — Анастасія (у дзявоцтве — Зайкоўская), 1917 года нараджэння, у Расіі, жыла ў Вішава. Праваслаўныя.

**Грыгарэвіч Віктар.** Забіты 18 лютага 1943 года ў 0.30 у Пярэсеках у сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1927 годзе ў Буцілах. Бацькі — Міхаіл Грыгарэвіч, 1886 года нараджэння, з Буцілоў, Надзея (у дзявоцтве — Гаель), нарадзілася ў 1892 годзе ў Малышах. Праваслаўныя.

**Грыгарэвіч Марыя.** Забітая 18 лютага 1943 года ў 0.30 у Пярэсеках у сваёй хаце. Бацькі — Міхаіл Грыгарэвіч, 1886 года нараджэння, і Надзея (у дзявоцтве — Гаель). Праваслаўныя.

**Адамчык Андрэй.** Забіты 18 лютага 1943 года ў 4 гадзіны ў Харашэвічах. Нарадзіўся ў 1911 годзе ў Харашэвічах. Бацькі — Соф’я Адамчык, 1888 года нараджэння, з Азарычаў, жыла ў Харашэвічах. Жонка — Вольга (у дзявоцтве — Пітліцкая) з Харашэвічаў. Праваслаўныя.

**Раманюк Алена** (у дзявоцтве — Бондар). Забітая 19 лютага 1943 года ў 20 гадзін у Нагуевічах. Нарадзілася ў 1908 годзе ў Харашэвічах. Бацькі — Яфім і Алена Бондары з Харашэвічаў. Муж — Канстанцін Раманюк, нарадзіўся ў 1908 годзе ў Харашэвічах. Праваслаўныя.

*Публікацыя*

●***Васіля Герасімчыка***

*Заканчэнне ў наступным нумары*

Ад рэдакцыі:

*Архіўны спіс няпоўны. На гэтую тэму ў "СК" былі наступныя публікацыі: Ёрш С. Расстрэл у Якімавічах "начальніка смерці" // Слонімскі край, 2017, № 7(17). Ліпень. С. 1, 6-7; Ёрш С. Начальніка штабу савецкага партызанскага атрада лавілі ў лясах пасля вайны // Слонімскі край, 2017, № 8(18). С. 4-6; Ёрш С. "Якімавіцкая справа" і кніга "Памяць" // Слонімскі край, 2017, № 10(20). С. 11-12; Ёрш С. Васіль* Струпавец // Слонімскі край, 2017, № 11(21). Лістапад. С. 20.

